



# Рэгіянальная газета. Rh.by

ТэлетыДзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

5 снежня 2014 года №49 (1023)






## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Працуе мабільная пошта

**ВАЛОЖЫН.** У вёсках Яршэвічы і Манькаўшчына пачало працаваць аўтамабільнае паштовае аддзяленне №1. Намеснік начальніка раённага вузла паштовай сувязі **Людміла Шаўрэй** гаворыць, што перасоўныя аддзяленні паштовай сувязі – новая сучасная форма абслугоўвання, якая прымяняецца для павышэння эфектыўнасці працы прадпрыемства і мінімізацыі затрат. "Пошта на колах" – альтэрнатыва тым аддзяленням паштовай сувязі, якія зачыніліся з-за нерэнтабельнасці і зніжэння колькасці насельніцтва. Спецыялізаваная машына з аўтаномнай крыніцай электрасілкавання, арттэхнікай, паштова-касавым тэрміналам можа аказваць увесь пералік паштовых паслуг. Кожны дзень, акрамя выхадных, машына прыязджае на прызначае месца, дзе працуе гадзіну-паўтары, у залежнасці ад колькасці кліентаў.

### Пабудуюць бальніцу для атамшчыкаў

**АСТРАВЕЦ.** Вясной у Астраўцы пачнецца будаўніцтва цэнтральнай раённай бальніцы. Абраны раўнінны ўчастак плошчай 9,5 гектара ў лясным масіве ўсходняй часткі горада. Персанал клінікі складзе 791 чалавек паводле штатнага раскладу. Размяшчэнне пацыентаў аддзяленняў прадугледжана ў палатах блокавага тыпу. Галоўны лячэбны корпус бальнічнага комплексу будзе нагадваць лісток канюшыны. Праект такі, што медыцынскаму персаналу не трэба будзе шмат часу на пераходы. Пабудуюць падземныя хады для дастаўкі ежы з харчблока ў карпусы. Асобна выдзелены інфекцыйны корпус і станцыя "хуткай дапамогі".

### У цэнтры Смаргоні збілі дзвюх жанчын

**СМАРГОНЬ.** Два дарожныя здарэнні, у якіх пацярпелі пешаходы, адбыліся 3 снежня. Першы выпадак а восьмай гадзіне раніцы. Аўтамабіль "Аўдзі" на вуліцы Леніна наехаў на жанчыну, якая спяшалася на аўтобус. Пацярпелая стукнулася галавой аб машыну і трапіла ў бальніцу. Другі выпадак адбыўся каля гадзіны дня. Кіроўца "Міцубісі" збіў пажылую жанчыну на пешаходным пераходзе на той жа вуліцы Леніна, але ў іншым месцы. Яе даставілі ў бальніцу.

**Аддзел інфармацыі.**



# Людзі не хочуць задыхацца

## Грамадскае абмеркаванне: жыхары баяцца экалагічнай катастрофы праз гіганцкія свінакомплексы



Фота Настассі РОЙДЫ.

Жыхарка Раеўшчыны Ірына Ярук збірае подпісы мясцовых жыхароў супраць будаўніцтва свінакомплексаў на 100 тысяч свіней на Маладзечаншчыне. Раеўшчына ўваходзіць у санітарна-ахоўную зону аднаго з іх, які плануюць размясціць ля вёскі Мойсічы. Гэта недапушчальна і пра гэта напісана ў справаздачы аб ацэнцы ўздзеяння комплексаў на навакολле.

**МАЛАДЗЕЧНА. Грамадскае абмеркаванне ацэнкі ўздзеяння двух гіганцкіх свінакомплексаў на Маладзечаншчыне прайшло пад вопλескі для выступоўцаў і абураныя воклічы для распрацоўшчыкаў праекта. Яно адбылося ў райвыканкаме ў панядзелак, 1 снежня, і доўжылася дзве з паловай гадзіны. Разыходзіліся пасля 20:30.**

У спісах зарэгістравалася сто ўдзельнікаў абмеркавання. Выступіла больш за 20, кожны са сваім разуменнем, як пабудовы негатыўна адаб'юцца на іх сям'і.

Выступоўцаў непакоілі ці абуралі розныя пытанні. Некаторыя знайшлі прамыя памылкі ў падліках праектантаў, іншыя ўпэўнены, што іх падманваюць завярэннем пра сучасныя тэхналогіі, якія насамрэч танныя. Частка незадаволеная, што іх мала інфармуюць па гэтай тэме. Большасць заклапочаная, што ад свінакомплексаў будзе смярдзець, а адходы пашкодзяць экалогіі. І ў выніку чакаюць наступствы ад падзення цэн на жыллё на паўднёвым усходзе горада і вёсках каля яго да катастрафічнага пагаршэння здароўя.

### "Чакаць, пакуль вырасце лес, нельга"

У прэзідыуме былі члены камісіі па падрыхтоўцы і правядзенні грамадскіх абмеркаванняў справаздачы па ацэнцы ўздзеяння на навакольнае асяроддзе (АУНА) пабудовы свінакомплексаў, распрацоўшчыкі праекта з кампаніі "Агрыка" і заказчык – дырэктар кампаніі "Вялес-Міт" **Алег Іваноў**.

Распрацоўшчык праекта **Аркадзь Юдасін** пачаў выступленне з тлумачэння. Свінакомплексы ў Мойсічах і Соўлава плануюць магутнасцю ў сто тысяч галоў, але аднachасова на ім будзе каля 50 тысяч. Свіней гадуюць 150-180 дзён, і такім чынам абдудзецца два абароты ў год.

Людзі не хацелі слухаць распрацоўшчыкаў пра перавагі праекта. Яны хацелі выказацца, чаму рэалізоўваць яго нельга.

Першай ўзяла слова жанчына **Улада**, якую непакоіць, што свінакомплексы плануюць ставіць у голым полі:

– Што ў нас, так ужо зусім няма дзе? Вы паглядзіце, якія ў нас прасторы – ні лесу, ні кустоў!

На пытанне адказаў Аркадзь Юдасін:

– Гледзячы на карту, здаецца, што зямлі нямала. Але калі пачынаеш падбіраць участак пад будаўніцтва, уступаюць у дзеянне шматлікія нормы. Мы аб'ездзілі раён не адзін раз і рэальна на землях падабралі сапраўды два ўчасткі. Па праекце як кампенсуючая мера прадугледжаная лесапаласа.

– А калі ж яна вырасце?! – абурана пытаецца Улада разам за залай.

– Цяпер такая абстаноўка ў дзяржаве, што чакаць, пакуль вырасце лес, нельга.

**Заканчэнне на 2-й старонцы.**

# Людзі не хочуць задыхацца

## Грамадскае абмеркаванне: жыхары баяцца экалагічнай катастрофы праз гіганцкія свінакомплексы

### Знайшлі памылку: у разліках аб'ёмы лагун зменшылі ў пяць разоў

Жыхар Валожынскага раёна **Уладзіслаў** выступіў з канкрэтнымі заўвагамі паводле памылак, якія ён знайшоў у справаздачы, і шэрагам заўваг па лічбах. Напрыклад, агульны аб'ём вытворчых сцёкаў паводле АУНА – 315,4 кубічныя метры за суткі. Але паводле рэспубліканскіх нормаў тэхналагічнага праектавання, аб'ём павінен быць 492 кубаметры – лічба атрымліваецца ў 1,5 раза большай.

Другую памылку ён заўважыў у разліках аб'ёму лагун. Адходы зоймуць 115 тысяч кубаметраў у год, а лагуны разлічаныя на 22 тысячы. Куды будзе дзявацца астатняе? Розніца – у пяць разоў.

Уладзіслаў заўважыў і іншыя нестыкоўкі, якія таксама даслаў у выканкам. Распрацоўшчык адказаў, што ў тым і мэта абмеркаванняў, каб знайсці магчымыя хібы. І дадаў, што гэтак жа, як сабралі подпісы супраць свінакомплексаў, можна сабраць подпісы і за іх.

### Ці гатовы заказчык плаціць за бяспеку

Каб супакоіць залу, слова ўзяў першы намеснік старшыні райвыканкама начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання **Генадзь Бажко**:

– Вы ж у прынцыпе не супраць, каб былі свінакомплексы, не будзем жа мы кожны ў сваім двары гадаваць свіней. Але мы не хочам, каб было негатыўнае ўздзеянне. Таму і просім распрацоўшчыкаў даказаць, што такога ўздзеяння не будзе. Ці гатовы навуковец адказаць, што ёсць прыёмы, каб пазбегнуць негатыву, і ці гатовы заказчык заплаціць за іх?

Зала прыняла словы дасведчанага чыноўніка. Але пасля яго некалькі чалавек выступілі з пытаннямі, дакладнага адказу на якія не атрымалі.

Адзін чалавек скардзіўся, што вёска Канюшаўшчына ў Валожынскім раёне задыхаецца. Нават стоячы спіной да ветру, чуваць смурод, нягледзячы на новыя тэхналогіі, што прымянілі пры пабудове вялікага комплексу.

Другі пытаўся, як можна ставіць свінакомплекс так, што пры выбуху эпідэміі ў ім у санітарную зону трапляе амаль стотысячны горад. Пазней галоўны ветэрынарны доктар раёна **Мікалай Малінец** адказаў, што ёсць рашэнне райвыканкама скараціць пяцікіламетровыя буферныя зоны да двух для свінакомплексаў і да 500 метраў для свінафермаў.

### Навошта гіганцкі комплекс?

Выступіў дырэктар бюро ацэнкі і экспертызы **Аляксандр Кавалёў**:

– Мяне як жыхара Рагазаў, пасёлка непадалёк ад Мойсічаў, пах непакоіць вельмі моцна. У мяне ёсць лецішча ў Пяршайскім раёне на Валожыншчыне, там будуюць свінакомплекс. Усе мясцовыя жыхары, я не буду казаць, якімі словамі гавораць пра гэты праект. Увесь свет імкнецца будаваць невялікія комплексы. Калі здараецца нейкая аварыя, лакалізаваць невялікі ўчастак нашмат прасцей, чым справіцца з гіганцкай катастрофай. Чаму вы сцвярджаеце, што сусветны досвед – гігантаманія?

Наступнай выступіла маладая мама з мікрараёна Усходні:

– Мойсічы, Мыслевічы, Раеўшчына, Адамавічы, Фестывальны, 6-ы і Усходні мікраёны горада – цалкам прадзімаюцца ветрам. Там голае поле. Ва Усходні мікрараён пераехалі маладыя сем'і з малымі дзецьмі. Гэта наша будучыня. З таго боку, дзе вы плануеце ставіць сваю свінаферму, дзьме вецер. Вядома, вы там не жывяце і вам не прынцыпова. Але я як мама баюся за будучыню свайго дзіцяці. Чаму яно павінна ўсё гэта нюхаць?

### Дзе праверыць, як працуе комплекс з аналагічнымі тэхналогіямі

Зала патрабавала назваць свінаферму, пабудаваную па тэхналогіях, якія распрацоўшчыкі праекта лічаць бяспечнымі і сучаснымі. Назвалі ТАА "Забалоцкі" ў Любанскім раёне і прапанавалі праверыць, ці ёсць пах каля яго. Праектанты дадалі, што кампанія "Агрыка" пры праектаванні прымяняе тыя ж тэхналогіі, што ў таварыстве "БелДан" у Ляхавіцкім раёне.

На гэта жанчына з залы, Марына, адказала, што цяпер дацкія тэхналогіі ва ўсім свеце лічаць шкоднымі.

У адказ зала пачула, што канцэнтрацыя свіней у Даніі ў пяць разоў большая, чым у Беларусі. Таму сапраўды ў Даніі праблема ёсць, у Беларусі пакуль не. З залы скептычна заўважылі:

– Ага, дык давайце ўстроім.

### Хто кампенсуе патаннелае жыллё?

Некаторых хвалюе пытанне жылля. Мужчына распавядае:

– У маі 2012 года, адстаяўшы ў чарзе 15 год, мы атрымалі ўчастак у вёсцы Раеўшчына. Як аказалася, у непасрэднай блізкасці да меркаванага свінакомплексу, менш чым у кіламетры. Я правёў там газ, ваду. Я, мая сям'я і мае дзеці не хочам жыць каля комплексу. Будоўлю мы распачалі, участак прадаць – я не магу. Горад павінен ведаць пра перспектыўныя праекты, пра гэты мяне не папярэдзілі. Мяне ніхто не пытаўся. Я іншы ўчастак узяў бы, каб ведаў. Пенсія не для таго, каб пісаць лісты ў санстанцыю і дзяцей сваіх лячыць, нам хапіла Чарнобыля.

У адказ яму прапанавалі запісацца на асабісты прыём у выканкам.

З залы яшчэ некалькі чалавек выказаліся, што і жыць будзе немагчыма, і жыллё не прадасі.




Фота Настасі РОЎДЫ

Падчас абмеркавання людзі прасілі звярнуць увагу на тое, што свінакомплексы могуць адмоўна паўплываць на здароўе дзяцей.

### Абяцалі, што паху не будзе ля Пяршаяў

На абмеркаванні выступіла яшчэ адна жыхарка з Валожыншчыны з пытаннем да распрацоўшчыка праекта:

– Я хачу вярнуцца да свінафермы ў Валожынскім раёне каля Пяршаяў. Вы паралі, куды звяртацца, таму што там ёсць парушэнні. А ці не вы рабілі справаздачу аб АУНА той фермы? У 2012 годзе на грамадскіх абмеркаваннях вы ж і гаварылі роўна тое самае: што вы разлічылі канцэнтрацыю, як будуць рассейвацца забруджвальныя рэчывы, і што ў санітарнай зоне яны будуць у межах дапушчальных.

Распрацоўшчык параіў разабрацца, адкуль смярдзіць. Дадаў, што людзі толькі гаварылі, што пахне, але ніхто не зрабіў ні кроку, каб разабрацца ў прычыне.

### Калі прымуць рашэнне, датычнае будаўніцтва свінакомплексаў

Як патлумачыў намеснік начальніка Маладзечанскага райвыканкама **Генадзь Актанаровіч**, пратакол сходу апублікуюць праз дзесяць дзён пасля грамадскага абмеркавання. Далей пройдзе экалагічная экспертыза і дапрацоўка справаздач аб ацэнцы ўздзеяння свінакомплексаў на наваколле.

Генадзь Рамуальдавіч мяркуе, што паўторна грамадскае абмеркаванне праводзіцца не будзе.

– Магчыма, улічым пажаданні людзей і абяром новае месца для свінакомплексаў, перанясём куды-небудзь у лес.

Цяпер райвыканкам падлічвае ўсе звароты ад жыхароў. Як зазначыў Генадзь Актанаровіч, іх вельмі шмат.

### Прыгадалі выбух аміяку

Жанчына з залы гучна абуралася:

– Два гады таму пры рэканструкцыі мясакамбіната міжнароднай кампаніі "Трайпл-Вялес" выбухнуў аміяк. 110 машын будаўнічых адходаў вывезлі ў вёску Гаравіны Цюрлёўскага сельсавета ў выгрузілі ў 40 метрах ад дамоў. Я выклікала экалогію, пракуратуру, райвыканкам. Летась прыйшла на прыём з работнікамі выканкама на чале са старшынёй, дзе мяне заверылі, што ўсё прыбяруць. Прайшоў год. Некалькі фур вывезлі. Але засталася гарадская звалка будадходаў.

Жанчына прыгадала, што непадалёк ёсць ферма для кароў:

– Кіламетр ад 6-а мікрараёна. Ферму для кароў як пабудавалі ў 1950-х гадах, так і кінулі. На скаргі адны адпіскі: каровы ходзяць у пакаёвых тапках, цяляты ў пеньюарах. А ідзе жыжа такая, што мы не жывём, людзі кінулі ўжо два дамы.

### Інжынер лічыць, што заказчык эканоміць

Далей выступіў мужчына, які назваўся інжынерам:

– Каля мяжы горада, Рагазаў нам гэты свінакомплекс не патрэбны. І не трэба, каб з часам ён трапіў у межы горада. Сцёкі куды ідуць? На поле. Вы сёння, спадар дырэктар, кажаце, што выдаткоўваеце каласальныя сродкі на ачышчальныя збудаванні. Вашы ачышчальныя на два мільёны – гэта нішто. Я кажу як інжынер. Сёння на такі комплекс ачышчальныя збудаванні мінімальна павінны каштаваць 7-8 мільёнаў еўра. Я разумею, што месца вы выбралі таму, што там газ, вада, дарога. Але вы зусім забылі пра людзей. Мне здаецца, гэта вельмі кепска. Я жыву там побач. Знайдзіце іншае месца. І 50 тысяч галоў, напэўна, столькі не трэба. Таму што столькі г...на – гэта катастрофа.

### Педыятр: штогод і так усё больш дзяцей-інвалідаў

Доктар-педыятар дзіцячай паліклінікі:

– Я працую педыятрам не адзін дзесятак год. Я бачу, што кожнае пакаленне фізічна слабейшае за папярэдняе. Я заклікаю падумаць пра дзяцей, унукаў і праўнукаў. Ці не замнога для Маладзечна: вялізны мясакамбінат, свінакомплекс з аднаго боку, з іншага? Горад бяруць у абцугі. Мясакамбінат размешчаны зусім побач з водазаборам "Крыніца", які сілкуе палову горада. Другую палову сілкуе водазабор у Гелянове, Мойсічы непадалёк. Усе сцёкі трапяць у грунтавыя воды, і праз некалькі дзесяткаў год мы не зможам піць ваду з-пад крана зусім. Нам мала Чарнобыля? Інвалідаў штогод усё больш. Экалогія на першым месцы павінна быць.

### Што рабіць, каб не дапусціць будоўлю комплексаў?

З такім пытаннем звярнулася некалькі прысутных. Збіраць подпісы, пісаць лісты ў выканкам, заказаць прыватную экспертызу?

На гэта старшыня камісіі Генадзь Актанаровіч адказаў, што ўжо ўсё зроблена і крык душы маладзечанцаў улады пачулі, а ўсе заўвагі запішуць у пратакол. Ён падкрэсліў, што рашэнне па будаўніцтве яшчэ не прынятае.

Начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва **Святлана Хрусталёва** паведаміла, што, паводле генеральнага плана забудовы, Маладзечна будзе расці ў бок Мінска, і паўднёвыя вёскі ў рысу горада не ўвойдуць.

Дырэктар кампаніі "Вялес-Міт" звярнуў увагу, што чым большы свінакомплекс, тым лепшую экалагічную абарону прадугледжвае. А свінакомплексы такіх магутнасцяў неабходныя для загрузкі мясакамбіната на Парашках:

– Сёлета ў Беларусі пагалоўе скарацілася на 20%. Яшчэ такі год – і будзе харчовая катастрофа ў краіне. Але ўсе вашы заўвагі мы будзем разглядаць.

Праектанты падкрэслілі, што рэалізацыя праекта магчымая толькі пры выкананні ўсіх нормаў і правілаў.

Напрыканцы жыхар з Валожыншчыны паскардзіўся, што абмеркаванні праходзяць толькі для маладзечанцаў, хаця некалькі валожынскіх вёсак ўваходзяць у двухкіламетровую зону свінакомплексу ў Соўлаве. Валожынцаў жа ніхто не папярэджваў і нічога не пытаўся пра будаўніцтва. Ён перадаў 560 подпісаў супраць пабудовы.

Распрацоўшчык праекта паведаміў, што праектную дакументацыю перадае кампаніі "Экадом", якая праводзіць незалежную экспертызу справаздачы.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

● ГРАМАДСТВА

# На аб'ектах харчавання знайшлі 16 парушэнняў

**МАЛАДЗЕЧНА. Супрацоўнікі занальнага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі праверылі 16 гандлёвых пунктаў грамадскага харчавання і 13 суб'ектаў гаспадарання.**

Парушэнні былі на ўсіх аб'ектах харчавання.

На чатырох з іх неабходна правесці рамонт. На двух парушалі ўмовы захавання прадуктаў. У адным з правераных месцаў харчавання гандлявалі прадуктамі, на якіх не было дакументаў аб бяспецы і якасці тавараў.

Пры праверцы аказалася, што некаторыя не выконваюць паточнасць тэхналагічнага працэсу. У іншых – незадавальняючы стан тэрыторыі.

У адным месцы грамадскага харчавання персанал несвоечасова праходзіў медыцынскае абследаванне. Знайшлі шэсць іншых парушэнняў.



Фота iwanttoknow.ru.

На трох гандлёвых пунктах у Маладзечне парушалі ўмовы захавання прадуктаў, гандлявалі прадуктамі, на якіх не было дакументаў бяспекі і якасці тавараў.

## Зрабілі 22 пробы гатовай прадукцыі

Усе пробы адпавядаюць гігіенічным нарматывам. Іншародных уключэнняў не знойдзена.

Пасля праверкі падрыхтавана 13 прадпісанняў аб прадухіленні парушэнняў. Прынялі 13 пастаноў аб адміністрацыйных правапарушэннях на суму 20 мільёнаў рублёў.

На адным з аб'ектаў грамадскага харчавання знята з продажу пяць кілаграмаў прадукцыі. Яна была без дакументаў, якія сведчаць аб бяспецы і якасці тавараў.

Часова зачынілі адзін рэстаран. Ён зможа аднавіць работу пасля выпраўлення парушэнняў.

**Паводле інфармацыі Міхаіла ГРАБОЎСКАГА, галоўнага доктара Маладзечанскага занальнага ЦГЭ.**

**Даведка "РГ".** Паточнасць тэхналагічнага працэсу – форма арганізацыі вытворчасці, якая характарызуецца паўтараемасцю ўзгодненых аперацый.




Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ.

| Курсы валют НБ РБ | 27.11 руб. | 4.12 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 10 800,00 | **10 820,00** |
| Еўра | 13 470,00 | **13 380,00** |
| Злоты | 3 224,41 | **3 210,73** |
| Літ | 3 901,88 | **3 865,94** |
| Расійскі рубель | 233,00 | **199,50** |
| Грыўня | 715,23 | **713,72** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 3.12** | | |
| Еўра | 13480/13650 | **13400/13600** |
| Долар ЗША | 10830/10930 | **10820/10950** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 26.11 (Цана руб.) | 3.12 (Цана руб.) |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | **28900** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 29500 | **29800** |
| Селядзец, 1 кг | 34700 | **34500** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 105000 | **105000** |
| Рыс, 0,9 кг | 10500 | **10500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 10400 | **11300** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 14300 | **14300** |
| Маянэз, 200 г | 6000 | **6000** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 11700 | **11700** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 32000 | **32000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 10700 | **10700** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 4500 | **5500** |
| Капуста, 1 кг | 2100 | **3100** |
| Морква, 1 кг | 4100 | **4100** |
| Буракі, 1 кг | 4000 | **4500** |
| Лімоны, 1 кг | 20500 | **18500** |
| Апельсіны, 1 кг | 15500 | **15500** |
| Мандарыны, 1 кг | 18500 | **17500** |
| Памідоры, 1 кг | 23900 | **20000** |
| Агуркі, 1 кг | 21500 | **24500** |
| Перац, 1 кг | 17500 | **20000** |
| Вінаград, 1 кг | 17000 | **18500** |
| Бананы, 1 кг | 13000 | **13000** |
| Хурма, 1 кг | 22500 | **22500** |
| Яблыкі, 1 кг | 9500 | **9500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 17500 | **17500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 90000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 50000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | 4200 | **4500** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **25000** |
| Мёд, 0,5 л | 50000 | **50000** |

● КАДРЫ

## Дырэктара вілейскага аўтапарка знялі пасля праверкі Камітэта дзяржкантролю

**ВІЛЕЙКА. МАЛАДЗЕЧНА.** Новым кіраўніком стаў **Аляксандр Рогач**, які раней працаваў галоўным інжынерам у аўтапарку №4 у Маладзечне.

Ён заняў пасаду ад 24 лістапада.

На пытанне, ці вызвалілі папярэдняга дырэктара ад пасады праз праверку дзяржкантролю, Аляксандр Рогач адказаў:

– Гэта адна з прычын, таксама паказчыкі па рабоце.

Былога дырэктара аўтапарка №5 у Вілейцы **Леаніда Гамолку** вызвалілі ад пасады 21 лістапада.

У Маладзечне абавязкі галоўнага інжынера выконвае **Уладзімір Шкода**, паведаміў дырэктар аўтапарка №4 **Яўстафій Каравай**.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● НАШЫ ГРОШЫ

## Падаражэла харчаванне ў дзіцячых садках

Гэта прадугледжана пастановай Савета Міністраў ад 26 лістапада.

Выраслі цэны на харчаванне ў цэнтрах карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі, школах, гімназіях і ліцэях.

**Паводле "Нашай Нівы".**

БЯСПЕКА

# Рыбакі-рызыканты выходзяць на лёд

**ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ. На Заслаўскім вадасховішчы 29 лістапада патануў рыбак. Таўшчыня лёду ў тым месцы дасягала ўсяго чатырох сантыметраў.**

Хапае рызыкантаў і ў нашым рэгіёне. Напрыклад, на Вілейскім вадасховішчы.

– На Чыжэвіцкай затоцы рыбакоў у пятніцу бачылі. А каля нашай станцыі яны з'явіліся ў панядзелак, – расказвае вадалаз першага класа Вілейскай выратавальнай станцыі **Міхаіл Гутнік**. – Адпаведныя шыльды паставілі, папярэджваем. Але хто прамаўчыць, хто працэдзіць: "Гэта наша справа". Я то на такі лёд не раіў бы лезці.

**Лічу, што бяспечна, калі таўшчыня лёду будзе як мінімум семсот сантыметраў. У аўторак каля станцыі яна была ад чатырох да шасці.**

Калі ўсё ж вырашылі парыбачыць, то вазьміце выратавальную камізэльку і вяроўку, раіць вадалаз. Ісці трэба, пераканаўшыся ў трываласці лёду. І само сабой, не быць нападпітку.

### Хто дапаможа выбрацца?

На Мядзельшчыне выратавальнікі ў нядзелю-панядзелак аб'язджалі азёры. Бачылі, што рыбакі былі на азёрах Белае, Рудакова, Баторына і больш дробных.


Фота rybak-rybaka.ru

Некаторых рыбакоў не стрымлівае нават тонкі лёд. Спецыялісты раяць перачакаць і вяртацца да рыбалкі, калі паверхня будзе трывалай.

На Мястры рыбакоў заўважылі ў панядзелак.

– Тлумачым людзям, непадалёку ад выратавальнай станцыі паставілі шыльдачкі з папярэджаннем, што "Выхад на лёд забаронены". Аднак большасць папярэджанні ігнаруе, – расказвае старшыня Мядзельскага раённага таварыства выратавання на водах **Дзмітры Мялешка**.

Хаця некаторыя распытваюць, ці можна рыбачыць, цікавяцца таўшчынёй лёду. У сярэднім каля станцыі яна складала ў аўторак ад пяці да васьмі сантыметраў.

– Не разумею, які сэнс рызыкаваць, – працягвае Дзмітры. – Калі чалавек праваліцца пад лёд там, дзе блізка выратавальнікі, то падаспеюць. А калі там, дзе іх няма? Хто дапаможа выбрацца?

### "Гэта трэба адчуваць"

Віляйчанін Мікалай на Вілейскае вадасховішча не імкнецца. Ён рыбачыць на сажалцы ў Вілейцы. Тлумачыць, што тут лёд таўсцейшы: сантыметраў дзесяць.

На пытанне, што так цягне рыбакоў хутчэй пайсці на лёд, адказвае:

– Не дзеля улову, вядома. І я раней рыбакоў не разумеў, пакуль сам не заняўся. Гэта не перадаць, толькі трэба адчуваць. Гэта як хвароба...

### Ці будуць штрафаваць за выхад на тонкі лёд?

Нядаўна ішлі пагалоскі, што могуць забараніць выхад на тонкі лёд. А за парушэнне – штрафаваць. Аднак гэта толькі пакуль размовы.

Але ўжо Таварыства выратавання на водах разам з Міністэрствам па надзвычайных сітуацыях распрацавала праект закона аб бяспечных паводзінах на вадзе. Ён пастаўлены ў план разгляду на 2015 год.

Сярод іншага ў законапраекце закладзеная норма, якая забараняе дзецям да 14 год выходзіць на лёд без кантролю бацькоў, паведамляе газета "Звязда". І рыбакам давядзецца лепш клапаціцца пра сваю бяспеку.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Як за мяжой?

У Літве рыбакі пры выхадзе на лёд мусяць мець выратавальныя камізэлькі і спецыяльныя шыпы – з іх дапамогай можна зачапіцца за лёд і выбрацца на паверхню. Будзеш без іх – чакае штраф. У Латвіі заканадаўча забаронена знаходзіцца на нетрывалым лёдзе.

**Паводле газеты "Звязда".**

СЛУЖБА 101

## Згарэў хлеў з маёмасцю – паспелі вывесці казу

**ВІЛЕЙКА.** Увечары ў нядзелю, 30 лістапада, згарэў хлеў у вёсцы Даўгінава. Разам з хлявом згарэлі скутар, матацыкл "Мураш", дровы і салома, якія ў ім былі. Толькі паспелі вывесці казу, расказаў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі **Андрэй Балаш**.

Прычына пажару ўстанаўліваецца.

**Аддзел інфармацыі.**

## Гарэла лазня ў Любані

**ВІЛЕЙКА.** Каля 22 гадзін 29 лістапада ў вёсцы Любань мужчына выйшаў на вуліцу і ўбачыў, што гарыць суседская лазня. Адразу пазваніў на "101". Разбудзіў суседзяў (гаспадары ужо ляглі спаць). Разам да прыезду выратавальнікаў спрабавалі тушыць загаранне.

Калі прыехалі выратавальнікі, дах лазні гарэў адкрытым полымем.

У выніку дах і перакрыцце столі згарэлі, закураныя сцены.

У суботу лазню цяплілі, аднак нічога падазронага не заўважылі.

Папярэдняя прычына пажару: парушэнне правіл мантажу пячнога абсталявання. Распавёў пра здарэнне інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі **Дзмітры Кляшняк**.

**Аддзел інфармацыі.**

УВАГА! ВЫШУК

## Паехаў на заробкі ў Расію – і знік

**ВІЛЕЙКА.** Шукаюць жыхара Вілейкі **Уладзіміра Кузьміча**, 1984 года нараджэння. У кастрычніку 2012 года ён паехаў на заробкі ў Санкт-Пецярбург і да цяперашняга часу яго месцазнаходжанне невядомае.


Уладзімір Кузьміч.

На выгляд 30 год, рост 175 сантыметраў, хударлявага целаскладу. Валасы цёмныя, кароткія, мае лысіну на лбе.

Да цяперашняга часу няма звестак і пра ўраджэнца вёскі Забродздзе **Юрыя Ляўко**. Ён 4 верасня з'ехаў са свайго лецішча ў Прынцы Вілейскага раёна на падлеткавым фіялетава-сінім ровары "Бусел" з металічным кошыкам на багажніку.


Юры Ляўко.

Яго прыкметы: на выгляд 75-77 гадоў, валасы сярэдняй даўжыні, сівыя, нос скрыўлены.

Быў апрануты: зялёна-шэрая сарочка з доўгімі рукавамі ваеннага ўзору, штаны спартыўныя цёмна-сінія з устаўкамі ў выглядзе гарызантальных чырвоных і зялёных палос унізе, карычневыя чаравікі на шнурках.

Калі вы што-небудзь ведаеце пра месцазнаходжанне гэтых грамадзян, паведаміце, калі ласка, па тэлефонах: **8-029-5076686, 8-033-3143042 або 102.**

**Аддзяленне крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС. Фота забяспечана Кацярынай КУРЭЦ.**

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## З машын скралі спартыўнае адзенне і дэкаратыўныя каўпакі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Па двух выпадках крадзяжоў шукаюць інфармацыю.

Невядомы ў перыяд часу ад 18:00 26 кастрычніка да 6:20 27 кастрычніка з аўто "Опель-Астра" скраў чатыры дэкаратыўныя каўпакі.

Аўтамабіль стаяў на неахоўнай стаянцы каля дашкольнай установы №7 па Вялікім Гасцінцы, 149.

Невядомы ў перыяд ад 18:15 25 кастрычніка да 13:30 26 кастрычніка абакраў БМВ-745 Л.

Машына стаяла на неахоўнай стаянцы каля дома №5 па вуліцы Касманаўтаў. Злачынца скраў спартыўную сумку са спартыўным жаночым адзеннем, усё маркі "Адыдас".

Пераканаўча просім усіх, хто штосьці ведае пра здарэнні, паведаміць па тэлефоне 8(0176) 77-79-59 ад 9 да 18 гадзін у рабочыя дні.

**Паводле паведамлення маладзечанскага райаддзела Следчага камітэта.**

ЗДАРЭННІ

## Кіроўца без правоў на летняй гуме выехаў на сустрэчку і загінуў пасля аварыі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Двух яго пасажыраў шпіталізавалі, кіроўца сустрэчнай машыны "Форд" не пацярпеў, паведамляе афіцыйны сайт УУС Мінаблвыканкама.

Здарэнне адбылося каля 16:20 у нядзелю, 30 лістапада, каля вёскі Краснае на Маладзечаншчыне.

33-гадовы мясцовы жыхар, у якога ніколі не было пасведчання кіроўцы, рушыў на машыне ВАЗ на Маладзечна. Ён не справіўся з кіраваннем, выехаў на сустрэчную паласу і сутыкнуўся з мікрааўтобусам "Форд-Транзіт".

Кіроўцу з траўмамі даставілі ў рэанімацыю, дзе ён праз паўтары гадзіны памёр. Яго пасажырка, 41-гадовая жанчына, трапіла ў рэанімацыю.18-гадовага пасажыра шпіталізавалі ў траўматалогію.

"Фордам" кіраваў 48-гадовы мужчына, удакладняе афіцыйны сайт МНС.

Да таго як выратавальнікі прыехалі дэблакаваць кіроўцу ВАЗа, 18-гадовага пасажыра медыкі са страсеннем мазгоў, закрытай чэрапна-мазгавой траўмай і прыкметамі алкагольнага ап'янення павезлі ў бальніцу.

У ВАЗе быў і трэці пасажыр, які пасля аказання першай медыцынскай дапамогі сам пайшоў з месца ДТЗ.

Па факце здарэння Следчы камітэт праводзіць праверку.

## Гарэла кватэра – магчыма, з-за катоў

**ВІЛЕЙКА.** Каля трох гадзін ночы 27 лістапада паступіла паведамленне аб пажары ў Вілейцы. Задымленне было ў кватэры на трэцім паверсе пяціпавярховага дома па вуліцы Гарадзішчанскай.

39-гадовы гаспадар адчуў пах дыму. Убачыў загаранне, спрабаваў тушыць. Але самастойна справіцца з пажарам не ўдалося.

Ён сам выйшаў з кватэры. А выратавальнікі патушылі загаранне.

Гаспадара даставілі ў Вілейскую ЦРБ з дыягназам "тэрмічныя апёкі твару, шыі, кісцяў рук першай-другой ступеняў (5% цела), атручэнне прадуктамі гарэння".

Агонь пашкодзіў канапу, закураныя сцены ў калідоры аднапакаёвай кватэры, расказаў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш**.

Папярэдняя версія такая: загаранне пачалося ад уключанай свяцільні, што ўпала на канапу. Са слоў гаспадара, яе маглі скінуць каты. Іх жыве ў кватэры тры. Каты на пажары не пацярпелі.

**Аддзел інфармацыі.**

ЗДАРОЎЕ

# На дзяцей да трох год – бясплатныя лекі

**МАЛАДЗЕЧНА. Як атрымаць кніжку на бясплатныя лекі для дзяцей да трох год. Якія лекі ўваходзяць у пералік. Ці ўсе лекі з карткі выдаюць бясплатна.**

У адной з інтэрнэт-суполак маладая маці напісала пра тое, што ім ніхто не патлумачыў, дзе атрымаць кніжачку на бясплатныя лекі на дзяцей да трох год. Жанчына здзіўляецца, чаму пра гэта бацькі даведваюцца ад фармацэўтаў, а не ад дактароў.

Яна пытаецца, хто павінны гэтым займацца, дзе атрымаць адпаведную кніжачку. Гавораць, што адным яе знаёмым выпісваюць усе лекі, а іншыя не ведаюць пра іх існаванне.

### Пра льготныя лекі павінны расказаць медсястра або доктар

Сітуацыю патлумачыла **Іна Саўчык**, загадчыца Маладзечанскай дзіцячай паліклінікі.

– Пра кнігу аб атрыманні льготных лекаў для дзяцей ва ўзросце да трох год раскажа медыцынская сястра або доктар падчас першага агляду дзіцяці, – расказвае Іна Саўчык. – Для яе атрымання неабходна, каб у дзіцяці была медыцынская картка. Падчас першага звароту ў бацькоў павінны быць пашпарт.

Загадчыца дзіцячай паліклінікі расказала, што ў картку запісаюць толькі тыя лекі, якія ёсць у спісе Міністэрства аховы здароўя.

Гэта тыя, якія найбольш часта выкарыстоўваюцца пры лячэнні дзяцей: пры прастудных захворваннях, бранхіце, анеміі, алергіі, расстройствах страўніка.

Пры гэтым абмежавання па колькасці прэпаратаў няма.

– Калі дзіцяці выпісалі некалькі прэпаратаў, якія ўваходзяць у пералік, то іх выдадуць у аптэцы, – заўважае Ірына Саўчык.

### Усе лекі з карткі выдаюць бясплатна

Маладая мама **Ганна Каратай** заўважае, што ў яе не ўзнікла цяжкасцяў пры атрыманні кніжачкі. Участковы тэрапеўт **Ірына Шчырава** растлумачыла, як ёй трэба карыстацца, у якіх аптэках можна атрымаць бясплатныя лекі. Жанчына заўважае, што ўсе лекі выдавалі бясплатна, незалежна ад таго, дарагія яны былі або танныя.

**Тацццяна Ложачнік** таксама гаворыць, што ў яе не было цяжкасцяў, тэрапеўт усё растлумачыла.

**Галіна СІНІЦА.**


Фота drivetayer.com.

Будучых дактароў і іншых спецыялістаў да трох год лечаць бясплатна.

ПАЛЯВАННЕ І РЫБАЛОЎСТВА

# Аргумент "А я мяса з рыбай у лесе знайшоў" больш не пракаціць

**Калі цяпер вас заўважаць за перавозам ці разбіраннем капытных (казулі, дзіка, аленя, лася), гэта будзе падставай для ўзбуджэння крымінальнай справы.**

Ад лістапада ўступілі ў сілу новыя рэдакцыі артыкулаў Крымінальнага кодэкса.

З'явіўся дадатковы артыкул, які прадугледжвае санкцыі за незаконны перавоз ці разбіранне дзікіх жывёл. У іх лік уваходзяць загінулыя, а таксама часткі. Для прыцягнення абавязковая дадатковая акалічнасць: калі жывёліна адносіцца да ахоўных відаў ці калі затрымаюць на асабліва ахоўнай ці радыяцыйнай тэрыторыі. Акалічнасцю можа быць буйны памер шкоды ці паўторнасць парушэння.

Прабел у заканадаўстве дагэтуль даваў магчымасць юркім браканьерам сыходзіць ад поўнай адказнасці. Калі іх затрымлівалі са здабычай, яны сцвярджалі, што мяса знайшлі ў лесе, і адмаўлялі, што палявалі незаконна.

Раней за "знойдзенае ў лесе" мяса можна было атрымаць штраф да 30 базавых велічынь (4 мільёны 500 рублёў), а цяпер пагражае да трох год пазбаўлення волі.

### Для рыбаловаў таксама ўзмацнілі адказнасць

За здабычу рыбы электраўстаноўкамі, ультрагукам, выбуховымі рэчывамі ў асабліва буйным памеры ўводзяць яшчэ і штраф. Вырас мінімальны парог штрафу за незаконную здабычу рыбы. Цяпер за гэта можна атрымаць ад 20 да 50 базавых, а раней ад 10. Выключылі такую мяккую форму ўздзеяння на парушальніка, як папярэджанне.

Асобнае пакаранне прадугледзелі за знаходжанне ў рыбалоўных угоддзях і на прылеглых тэрыторыях да аднаго кіламетра ад берага з забароненай зброяй рыбалоўства. А таксама з рыбай, лоўля якой забароненая ці вага перавышае норму, а чалавек не мае дакументаў, якія б пацвердзілі законнасць здабычы.

Нагадваем, што за суткі адзін рыбалоў можа налавіць да 5 кілаграмаў рыбы.

Такая мера дазволіць пакараць браканьераў, якія распавядаюць, нібы купілі рыбу ў іншых.

Папраўкі павысілі планку буйной і асабліва буйной шкоды. Цяпер буйной лічаць суму ад 100 базавых (раней – ад 40). Шкоду ад 250 базавых цяпер лічаць асабліва буйнай (раней – ад 10 базавых).

Кірыл **ЧАБАН**,
**намеснік начальніка Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**



Пасля адкрыцця выставы народнай студыі арыгамі "Чароўны квадрат" прайшоў майстар-клас. На ім дзеці навучыліся рабіць сэрцайкі, папяровых жураўлікаў.

Фота Галіны СІНІЦЫ.

● ВЫСТАВЫ

# Арыгамі падрыхтоўвае дзяцей да школы

**МАЛАДЗЕЧНА. 2 снежня ў мастацкай школе адкрылася выстава народнай студыі арыгамі "Чароўны квадрат" Вілейскага цэнтра эстэтычнага выхавання. Яна будзе працаваць да 11 снежня.**

На ёй можна ўбачыць елачкі, кветкі, кампазіцыі з кветак, фігуркі анёлаў, домікаў.

### Арыгамі – гэта і навука, і гульня

Такое вызначэнне дае **Іна Занкевіч**, настаўніца па арыгамі Вілейскага цэнтра эстэтычнага выхавання.

– У арыгамі задзейнічаныя геаметрычныя паняцці, фігуры, – распавядае жанчына. – Таму яно цесна звязанае з геаметрыяй. Творчы пачатак у тым, што кожны чалавек можа самастойна прыдумаць кампазіцыю, фігуру, вобраз, які існуе ў яго ўяўленні. Ёсць і гульнёвасць, бо чалавек стварае пэўныя фігуры для свайго задавальнення.

### Важна навучыцца адчуваць паперу

Дырэктар Вілейскага цэнтра эстэтычнага выхавання **Таццяна Захарыч** заўважае, што дзецям неабавязкова адразу складаць паперу, рабіць з яе фігуры. Важна, каб дзіця навучылася адчуваць паперу. Для гэтага дастаткова спачатку яе проста скамячыць ці складаць з яе што заўгодна.

Заняткі арыгамі спрыяюць развіццю маторыкі рук, уяўленню, канцэнтрацыі ўвагі, логікі, мыслення.

– Дзеці робяць пэўныя геаметрычныя фігуры, а настаўнікі тлумачаць ім геаметрычныя паняцці, – расказвае Іна Занкевіч. – Таму той, хто пачынае займацца арыгамі з садка, больш падрыхтаваны да школы.

### На занятках большасць хлопцаў

Як тлумачыць Таццяна Захарыч, у хлопцаў больш развітае прасторавае ўяўленне, таму складанне фігур з паперы даецца ім лёгка.

Праз арыгамі можна выказаць свае адносіны да чалавека, пачуцці.

– Аднойчы ў студыі быў выпадак, – узгадвае Іна Занкевіч. – Хлопчык хацеў прызнацца ў каханні да дзяўчынкі. Падарыў ёй карзіну з 50 папяровымі ружамі. Ёй гэта было вельмі прыемна. А вось мы, настаўнікі, доўгі час разглядалі гэтыя кветкі са здзіўленнем: як ён змог з паперы ў тры сантыметры скласці ружу?

### Папяровы журавель засцерагэ ад няўдач

Настаўніца па арыгамі заўважае, што папяровыя фігуры паступова набылі і сімвалічны сэнс. Белы журавель лічыцца сімвалам надзеі, шчасця. Некаторыя насілі гэту фігурку ў нагрудный кішэні. Лічылі, што ён засцерагэ ад няўдач.

– Калі ведаць сімволіку, – заўважае Іна Занкевіч, – можна нават размаўляць без слоў. На ўсходзе некаторыя дзяўчаты дарылі каханым хлопцам фігуркі жабак. Гэта быў знак таго, што малады чалавек можа спадзявацца на сустрэчу.

Некаторыя фігуры надзялялі нават магічным сэнсам. Напрыклад, у папяровыя кветкі кусудама маглі ўкладаць травы. Лічылі, што гэта засцерагэ ад нячыстай сілы. Для гэтых жа мэтаў кветкі вешалі пры ўваходзе ў дом.

**Галіна СІНІЦА.**

**Даведка "РГ".** Кветкі кусудама – папяровая фігура ў форме шара, якую робяць пры дапамозе сшывання або склейвання аднолькавых фігур

● МУЗЫКА

## Маладзечанскі музыка Віталь Качаткоў трапіў у топ японскага медыя-сайта

**МАЛАДЗЕЧНА. Адна з найбольш папулярных інтэрнэт-старонак свету японскі медыя-сайт Recochoku ў раздзеле топ-навінак размясціў работу маладзечанца Віталя Качаткова "Гітарныя сезоны".**

Рэліз альбома на японскім партале адбыўся 3 лістапада, і амаль за месяц пласцінка ўвайшла ў топ-навінак.

Пласцінка "Гітарныя сезоны", якую запісалі вядомы арт-шансанье Віталь Качаткоў разам з "брыльянтавай гітарай Беларусі" **Сяргеем Анцішыным**, – гэта выдатны падарунак для аматараў пазітыўнай акустычнай лірыкі.

Альбом з'явіўся на інтэрнэт-медыяплэеры iTunes не так даўно, яго ўжо ацанілі не толькі аматары, але і прафесіяналы.

У ім сабраныя акустычныя інструментальныя версіі найбольш вядомых аўтарскіх песень Віталя Качаткова. Альбом насычаны ноткамі лірычнага рэлакса, а гітарнае сола ператварае праслухоўванне "Гітарных сезонаў" у музычную медытацыю.

Жанравая разнастайнасць – яшчэ адзін канёк альбома. Віртуозная гітара заслужанага артыста Беларусі Сяргея Анцішына прадстаўлена ў самых розных стылях фолка, соўла, фанка і боса-новы.

Нечаканым сюрпрызам сталі трэкі, якія вяртаюць у блюзавыя і рок-н-рольныя традыцыі. Ёсць і джазавы складнік (Jazz), а таксама ламбада ў гітарнай аранжыроўцы (I Want).

**Аддзел інфармацыі.**

## Пераможца конкурсу "Адна зямля" зноў штурмуе "Еўрабачанне

**ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА. Для ўдзелу ў нацыянальным адборачным туры міжнароднага конкурсу песні "Еўрабачанне-2015" падалі больш за 110 заявак.**

Свае заяўкі падалі групы Napoli, Switter Boys, "Інжыр", Milki і "Містэрс", а таксама выканаўцы **Таша Одзі, Аўра, Аляксей Грос, Гюнеш, Жанет, Юзары &Маймуна,** паведамляе БЕЛТА.

Сярод удзельнікаў і спявачка **Дарыя (Дар'я Урызчанка)** – пераможца конкурсу "Адна зямля" ў 2000 годзе. Яна жыла ў Вілейцы, вучылася ў Маладзечанскім музычным вучылішчы.

Мінулы раз Дарыя ў фінале нацыянальнага адборачнага тура падзяліла восьмае і дзявятае месцы.

Прафесійнае журы падвядзе вынікі праслухоўвання і вызначыць не больш за пятнаццаць выканаўцаў для ўдзелу ў фінале.

**Аддзел інфармацыі.**

● КУЛЬТУРА

## Віляйчан узнагародзілі за "Звычайны цуд"

**ВІЛЕЙКА. Ад 28 да 30 лістапада праходзіў абласны фестываль народных тэатраў "Бярэзінская рампа".**

У фестывалі бралі ўдзел сем аматарскіх тэатральных калектываў з Міншчыны – з Барысава, Слуцка, Маладзечна і іншых гарадоў.

Народны тэатр Вілейскага Палаца культуры паказаў мюзікл "Звычайны цуд" па п'есе **Яўгена Шварца** (рэжысёр – **Вадзім Шырочын**).

Народны тэатр з Вілейкі прывёз з фестывалю дыплом "За вернасць тэатральным традыцыям". Адзначылі таксама вілейскіх акцёраў. **Марыну Заяц** – за лепшую жаночую ролю, **Андрэя Дударчыка** – за арыгінальнае ўвасабленне вобраза.

– На фестывалі мы абмяняліся творчымі дасягненнямі, набраліся досведу, пазнаёміліся з пастаноўкамі моцных тэатральных калектываў, – падзялілася намеснік дырэктара Палаца культуры **Вольга Шляпо**.

І паміж журы былі нашы землякі. Сустаршынёй журы стала ўраджэнка Мядзельшчыны народная артыстка Беларусі **Марыя Захарэвіч**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Маладзечанскае вытворчае ўпраўленне "Маладзечнаміжрайгаз" паведамляе, што ад 1 снежня 2014 года**

**МЯНЯЮЦЦА ТАРЫФЫ НА ПРЫРОДНЫ ГАЗ:**

- з усталяванымі прыборамі ўліку расходу газу і пры адсутнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў (катлоў) складае 2254,7 рублёў за 1 куб.м;
- без індывідуальных прыбораў ўліку расходу газу пры наяўнасці ў кватэры газавай пліты і цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння – 17950,0 рублёў з аднаго чалавека;
- з усталяванымі прыборамі ўліку расходу газу і пры наяўнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў (катлоў) складае: у ацяпляльны перыяд – 615,9 рубля, летні перыяд – 2254,7 рубля за 1 куб.м.

УНП 100008077.

АСОБЫ

# Як Леў Альпяровіч з Куранца стаў вучнем Рэпіна

**ВІЛЕЙКА. Сёлета святкуецца 140-годдзе ад нараджэння славутага мастака з Вілейшчыны, чые работы сустракаюць наведнікаў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.**

З гэтай нагоды сёлета выдалі кнігу "Леў Альпяровіч", аўтар тэксту і складальнік **Валянціна Вайцяхоўская**, вядучы навуковы супрацоўнік музея.

Кніга – частка серыі "Славутыя мастакі з Беларусі", якая будзе складацца з 30 кніг, прысвечаных жыццю і творчасці мастакоў з Беларусі 19-20 стагоддзяў.

## Быў удзячны настаўніку ўсё жыццё

Лейба (Леў) Абрамавіч Альпяровіч нарадзіўся 4 (16) снежня 1874 года ў мястэчку Куранец Вілейскага павета Віленскай губерні (цяпер вёска Куранец Вілейскага раёна Мінскай вобласці) у сям'і **Абрама-Рубіна Шаломавіча** і **Хаі Уравай**. Каля 1882 года сям'я пераехала ў Мінск. У 1890 годзе 16-гадовы юнак паступіў ў Віленскую малявальную школу акадэміка **Івана Трутнева**, дзе вучыўся два гады і атрымаў пахвальны ліст і сярэбраны медаль.

Ад 1892 да 1896 года Альпяровіч – у Адэсе, у малявальнай школе і агульнаадукацыйным вучылішчы Адэскага таварыства вытанчаных мастацтваў. Тут ён вучыўся ў **Мікалая Кузняцова**. Менавіта гэты майстар аказаў на яго найбольшы ўплыў, за што мастак быў удзячны яму ўсё жыццё. Яго поспехі былі адзначаныя малым і вялікім бронзавымі медалямі за "жывапіс з мёртвай натуры" (нацюрморт) і малым сярэбраным медалём за малюнак з натуры.

## Рэпін зацікавіўся няшчасным маладым мастаком

Мэтанакіраванасць, поспехі ў вучобе заахвоцілі таленавітага юнака адправіцца ў Санкт-Пецярбург, дзе пасля паўгадавога выпрабавання, ад 1 студзеня 1897 года, ён стаў вучнем Вышэйшага мастацкага вучылішча пры Імператарскай акадэміі мастацтваў. Але тут параўнальна плаўны ход жыцця Альпяровіча даў збой. Збег аб'ектыўных (хвароба і безграшоўе) і суб'ектыўных (няздача іспыту, паштовая блытаніна) абставін прывёў да таго, што ў 1899 годзе ён быў выключаны з ліку навучэнцаў.

Альпяровіч звярнуўся па дапамогу да **Ільі Рэпіна**. Самага знакамітага рускага мастака зацікавілі працы няшчаснага юнака, якому пагражала воінская служба. У кастрычніку 1899 года Альпяровіч стаў вольным слухачом майстэрні Рэпіна.

Праз тры гады ён атрымаў званне мастака, чын Х класа пры паступленні на дзяржаўную службу, правa на нашэнне сярэбранага акадэмічнага знака і на выкладанне малявання ў навучальных установах. Ад лістапада 1902 года Альпяровіч стаў "самым сапраўдным" мастаком, прайшоўшы ўсе стадыі расійскай мастацкай адукацыі. У гады вучобы пабываў у выдатных і рознахарактарных гарадах імперыі: Вільні, Адэсе, Санкт-Пецярбургу, Маскве і блізка пазнаёміўся з выдатнымі мастакамі і асобамі.

Напрыканцы 19 стагоддзя ў Мінск прыязджаюць жыць многія вядомыя прафесійныя мастакі, адкрываюць свае майстэрні, ладзяць выставы, хаця ў той час горад культурнай сталіцай зусім не быў. У 1902 годзе ў Мінску пасяляецца і Альпяровіч, дзе пражыў 11 гадоў, за выключэннем нядоўгіх вандраванняў.

## Удзельнік мінскіх і віленскіх выстаў

Ён актыўна ўключаецца ў мастацкае жыццё сталіцы і ўжо лютым 1906 года прэзентуе 37 нумароў каталога сваіх работ: партрэты, пейзажы, эцюды. Наступны вядомы нам яго ўдзел у выставе – красавік 1910 года, у мастацка-прамысловым музеі пры Мінскім камерцыйным вучылішчы.

Ад канца 1906 года і, відаць, да 1909 года Альпяровіч знаходзіўся за мяжой. Па дакументах і працах вядома, што ён быў у Берліне. Пра тое, як магла быць ажыццёўлена гэта паездка небагатым мастаком, можна толькі здагадвацца. Магчыма, спрыялі заможныя сваякі, мабыць, жонка мастака.

Паездка ў Еўропу аказала моцны ўплыў на фарміраванне сталага стылю мастака. Але пры вяртанні ў Мінск становішча не стала больш трывалым і забяспечаным.

У 1911-1913 гадах ён удзельнічаў яшчэ у трох мінскіх і віленскіх выставах, акрамя таго, працаваў табельшчыкам. У апошні год жыцця выкладаў у прыватным мужчынскім яўрэйскім рэальным вучылішчы.

## Некралог з газеты- капейкі

У канцы 1913 года ў "Минскай газете-копейке" змешчаны некралог ад Савета Мінскага Вегетарыянскага Таварыства, які апавяшчаў "О кончине своего члена-соревнователя свободного художника Льва Абрамовича Альперовича, последовавшей 23 декабря после непродолжительной и тяжелой болезни".

У 1925 годзе на Першай Усебеларускай выставе экспанаваліся і дваццаць твораў Льва Альпяровіча, у тым ліку тры аўтапартрэты. Пасля чаго пра мастака забыліся, што нядзіўна ў сітуацыі "будаўніцтва новага свету".

І толькі ў 1939 годзе сябар мастака, мінскі скрыпач **Юльян Жухавіцкі**, вяртае імя Альпяровіча, знаёміць з яго творчай спадчынай, якая захавалася ў сям'і.

**Сапраўды, гэта падзея падавалася тады, як сенсацыя: усімі забыты, нікому невядомы мастак, а тут 300 работ, ды яшчэ вучань Рэпіна!**

Вынікам з'явілася персанальная выстава твораў Альпяровіча ў чэрвені 1939 года. З таго часу яго работы заўсёды ўваходзілі ў склад рэтраспектыўных выстаў мастацтва Беларусі і ў адпаведныя выданні.



Групавы партрэт (дочкі мастака Льва Альпяровіча). Пачатак 1910-х гадоў.

Фота забяспечана Вольгай КОЛАСАВАЙ.

## Славутыя мастакі-сябры: Пэн, Кругер, Альпяровіч

Творчыя інтарэсы Льва Альпяровіча былі разнабаковыя. Ён пісаў краявіды, бытавыя кампазіцыі, вялікую ўвагу надаваў партрэту. Большасць яго работ мае характар эцюду.

Сёння Нацыянальны мастацкі музей Беларусі захоўвае больш як 50 твораў Льва Альпяровіча: 33 – жывапісу і 18 – графікі. Работы мастака знаходзяцца ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі, Адэскім мастацкім музеі і прыватных калекцыях.

Большасць работ уцалела дзякуючы шчасліваму збегу абставін: у 1941 годзе ў Віцебску адкрылася выстава трох славутых мастакоў-сяброў: **Юдэля Пэна**, **Якава Кругера** і **Льва Альпяровіча**. Калі пачалася вайна, яна была эвакуяваная ў Саратаў, а пасля вернутая. Сярод найбольш значных твораў Альпяровіча – партрэты і кампазіцыі, вернутыя з Германіі ці знойдзеныя пасля вайны ў мінскіх музейных зборах.

Сёння пяць палотнаў мастака Льва Альпяровіча, разам з творамі майстроў пачатку 20 стагоддзя, сустракаюць наведнікаў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі ў пачатку экспазіцыі – мастацтва Беларусі канца 19 – пачатку 20 стагоддзя. Каштоўнасць яго твораў як факта мастацтва, мастацкай культуры, духоўнага жыцця безумоўна не выклікае сумненняў, як і прывабнасць яго творчасці – таленавітай і шчырай, адкрыта эмацыйнай і годна стрыманай.

## Ад аўтара

Некалькі разоў гартаю старонкі кнігі, углядаюся ў ілюстрацыі і падоўгу спыняю погляд на малюнку "Групавы партрэт (дочкі мастака)". Міжвольна лаўлю сябе на думцы: як склаўся лёс гэтых дзяўчынак, магчыма дзесьці жывуць унукі, праўнукі мастака. Мы нічога не ведаем пра іх. І будзем вельмі ўдзячныя, калі хтосьці адгукнецца.

Мы помнім, шануем памяць і ганарымся, што менавіта на нашай зямлі нарадзіўся такі славуты мастак – Леў Альпяровіч!

**6 снежня, у суботу, а 12 гадзіне ў выставачнай зале музея адбудзецца вечарына памяці Льва Альпяровіча. Запрашаем усіх ахвотных.**

**Вольга КОЛАСАВА,**
**старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея.**

КАЛЯНДАР

**7 снежня.** 190 гадоў назад нарадзіўся Юльян Бакшанскі (1824 – 1863, маёнтак Тупальшчына Свянцянскага павета, цяпер Смаргонскі раён). Вучыўся ў Віленскай гімназіі. За сувязь з тайнымі студэнцкімі гурткамі і хаванне забароненых кніг ў 1842 годзе сасланы ў Разанскую губерню. У 1846 годзе вярнуўся з выгнання і ў сакавіку 1847 года напісаў "Адозву да смаргонскіх сялян", у якой заклікаў аб'ядноўвацца з мяшчанамі і салдатамі і выступіць супраць памешчыкаў, выказваў ідэю аб рашаючай ролі народных мас у жыцці грамадства, разглядаў народнае паўстанне як асноўны сродак вырашэння сацыяльных і нацыянальных праблем. Арыштаваны і засуджаны на 12 гадоў катаргі, якую адбываў у Нерчынску да 1858 года. У 1863 годзе на радзіме арганізаваў і ўзначаліў паўстанцкі атрад і ў сутычцы з урадавымі войскамі загінуў у вёсці Свечкі. Пахаваны ў в. Плябань Маладзечанскага раёна.

***

**1921 год.** У Заходняй Беларусі ў Радашкавічах заснаванае Таварыства Беларускай Школы (дзейнічала да 1937 года).

***

**8 снежня. 1432 год.** Пад Ашмянамі адбылася бітва паміж вялікімі князямі Свідрыгайлам і Жыгімонтам. Загінула больш за 10 тысяч чалавек.

***

**9 снежня.** 1891 год. Нарадзіўся Максім Багдановіч (г. Мінск), паэт, перакладчык, крытык, класік беларускай літаратуры.

***

**1981 год.** У Мінску (каля Opернага тэатра) устаноўлены помнік Максіму Багдановічу (скульптар Сяргей Вакар).

***

**1991 год.** У Траецкім прадмесці ў Мінску адкрыўся Літаратурны музей Максіма Багдановіча.

***

**10 снежня.** 1870 год. Нарадзіўся Фердынанд Рушчыц (маёнт. Багданава, цяпер Валожынскі р-н), польскі і беларускі мастак, педагог, тэатральны дэкаратар.

***

**1865 год.** Расійскі царскі ўрад забараніў асобам каталіцкага веравызнання і "польскага паходжання" купляць і арандаваць зямлю на Беларусі.

***

**11 снежня.** 55 гадоў назад (1959) у Маладзечне на Цэнтральнай плошчы усталявалі помнік Леніну.

***

**50 гадоў** назад (1964) у Маладзечне прыняты ў эксплуатацыю будынак чыгуначага клуба.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**








Толькі галінкамі з навагодняга букета і цацкамі можна ўпрыгожыць пакой так, што атмасфера будзе святочная і прыемная.

● ПОПЫТ

# Пайшла мода на сосны і навагоднія букеты

**МАЛАДЗЕЧНА. Якія навагоднія дрэвы будуць модныя сёлета. Калі ёлкі да Новага года з'явяцца ў продажы, колькі будуць каштаваць. Як даўжэй захаваць зялёную прыгажуню.**

Галоўны ляснічы Маладзечанскага лягсаса **Андрэй Шыбека** расказаў, што лягсас паставіць на кірмашы каля шасці тысяч ёлак. Таксама ў лягсасе можна будзе выпісаць білет, маючы які можна будзе высечы елачку самому.

### 18 снежня ёлкі з'явяцца на кірмашах

– Аднак у кожным ляснiцтве вызначаныя пэўныя месцы для высякання елак, – адзначае спецыяліст. – Таму ссячы там, дзе хочацца, не атрымаецца. Спецыялісты з лягсаса пакажуць патрэбнае месца, дапамогуць правільна ссячы дрэўца.

Андрэй Шыбека адзначае, што елкі пачнуць высякаць прыблізна ад 12 снежня. Ад 18 снежня яны з'явяцца на кірмашах пры лясніцтвах. Летась карысталіся попытам ёлкі ад метра да двух. Павялічыўся попыт на сосны.

### Вільготны грунт захавае елку ў памяшканні

– 10% продажу ў мінулым годзе прыходзілася на сосны. Па-першае, на іх галінках менш іголак, – адзначае галоўны ляснічы. – Яны мацней трымаюцца, таму даўжэй могуць стаяць у пакоі.

У продажы будуць і навагоднія букеты. Спецыялісты з лягсаса робяць іх з галінак сасны, елкі, упрыгожваюць стужкамі, штучным снегам.

Андрэй Шыбека гаворыць, што ёлка будзе лепш стаяць, калі паставіць яе ў вільготны грунт або ваду. Дрэву будзе ўтульна, калі ў памяшканні вільготнае паветра.

**Галіна СІНІЦА.**

● НАШЫ ГРОШЫ

## Найтаннейшыя ёлкі ў рэгіёне – на Валожыншчыне

**Найбольш выгадную прапанову навагодніх дрэўцаў прапануе менавіта Валожынскі лягсас.**

Самыя эканомныя могуць набыць святочны настрой за 15 тысяч, купіўшы навагодні букет з галінак хвоі і елкі ў Вілейцы. Не ўсе хочуць турбаваць сябе ёлкай, ім дастаткова паставіць лапкі для настрою.

Гэта новая паслуга, якую пакуль прапануюць толькі лягсасы Валожына, Маладзечна і Вілейкі. Летась у Валожыне купілі два такія букеты.

Смаргонскі лягсас забяспечвае навагоднімі дрэўцамі і ашмянскіх пакупнікоў.

Лягсасы ўдакладняюць, што цэны могуць крыху павялічыцца.

Метровая штучная ёлка на маладзечанскім рынку каштуе каля 300 тысяч рублёў.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Колькі каштуюць навагоднія дрэўцы для насельніцтва па рэгіёне**

| Вышыня ёлкі ці хвоі ў метрах | Цана ў тысячах рублёў | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **Валожын** | **Вілейка** | **Маладзечна** | **Смаргонь** | **Ашмяны** | **Мядзел** | **Астравец** |
| Да 1 | 40 | 55 | 50 | 65 | 65 | 40 | 78 |
| 1,1 – 2 | 50 | 70 | 70 | 75 | 75 | 60 | 90 |
| 2,1 – 3 | 65 | 85 | 90 | 95 | 95 | 150 | 120 |
| Букет навагодні | 30 | 15 | 40 | | | | |



● КОНКУРС

## Дзяды Марозы пройдуць па Вілейцы 27 снежня

**ВІЛЕЙКА.** На цэнтральнай плошчы горада 27 снежня адбудзецца раённы конкурс-шэсце Дзядоў Марозаў і Снягурак.

Навагоднія персанажы пакажуць візітоўку, паспаборнічаюць у конкурсе на лепшае віншаванне з Новым годам і гульнявым конкурсе.

Пачнецца шэсце ў 12 гадзін, паведаміла намеснік дырэктара Вілейскага Палаца культуры **Вольга Шляпо**.

**Аддзел інфармацыі.**

● НАВІНЫ

## Дары дабро – стань Дзедам Марозам

**МАЛАДЗЕЧНА.** Пад такой назвай бярэ старт дабрачынная акцыя ў Маладзечне.

Супрацоўнікі Маладзечанскага райспажыўтаварыства прапанавалі выхаванцам Радашкавіцкай школы-інтэрната намаляваць тое, што яны хочуць атрымаць у падарунак на Новы год.

Малюнкі дзетак размесцяць на ёлцы, якая стаіць у магазіне "Родны кут", што ў 11 мікрараёне.

Кожны пакупнік магазіна зможа паглядзець і выбраць малюнак, які яму спадабаўся больш за ўсё. І падарыць дзіцяці тое, што той намаляваў.

– Пакуль яшчэ невядома, дзе адбудзецца ўручэнне падарункаў, у школе-інтэрнаце ці ў магазіне, – гаворыць намесніца старшыні па кадрах і ідэалагічнай рабоце Маладзечанскага райспажыўтаварыства **Надзея Каралевіч**.

Далучыцца да акцыі можа кожны ахвотны. Плануецца, што ўжо на гэтым тыдні малюнкі дзяцей размесцяць на ёлцы.

**Наталля ТУР.**

## На Вілейшчыне выберуць лепшае навагодняе афармленне

**ВІЛЕЙКА.** У Вілейскім раёне правядуць агляд-конкурс на лепшае святочнае афармленне адміністрацыйных, грамадскіх і жылых будынкаў.

Пройдзе ён ад 15 да 22 снежня. Конкурс праводзіцца па шматлікіх намінацыях: выберуць лепшае святочнае афармленне як двара і дома, так і разнастайных устаноў і прадпрыемстваў.

Вынікі конкурсная камісія падвядзе да 28 снежня, паводле паведамлення на сайце Вілейскага райвыканкама.

**Аддзел інфармацыі.**



# Каляндная магія: як удала прыбраць дом

**Каляды і Новы год у кожны дом могуць прынесці не толькі свята і казачны настрой, але і падарыць сапраўднае чарадзейства.**

Любая магія ствараецца сваімі рукамі. Вы таксама ў сілах адчуць у сабе надзвычайныя сілы, якія дапамогуць змяніць тое, што трэба менавіта вам.

**2015-ы – год Сіняй Драўлянай Казы. Варта аддаваць перавагу сінім і зялёным колерам.**

Пачніце адразу з увахода. Павесьце на дзверы калядны вяночак са званочкамі, каб гаспадыня наступнага года спрыяла вам ад парога. Званочкі развесьце ў прыхожай і зале, дзе будзе навагодні стол і ёлка. Прымацуйце іх зялёнымі і сінімі банцікамі.

### Павесьце гірлянды на вокны

Расстаўце па пакоях фігуркі козачкі з дрэва, крышталю ці керамікі ў бачных месцах. Падарыце некалькі сваім сваякам, сябрам і знаёмым.

Абавязкова ўпрыгожце вокны. Зімой з іх адкрываецца панура далягляд, які зусім не дапамагае стварыць святочны настрой. Размясціце на падваконні кнігі, падсвечнікі, прыгожыя фігуркі, не забудзьце пра званочкі. Прымацуйце на акно адмысловыя налепкі ці расфарбуйце яго акварэллю. Можна намаляваць сняжынкі ці зімовы пейзаж, а можна і козачку на летнім лузе.

Упрыгожце акно гірляндай – так дух свята і чараўніцтва будзе не толькі ў доме, але і для любога мінака. Уявіце звычайны вілейскі двор, калі ў кожнай кватэры хаця б некалькі вокнаў з гірляндамі.

### Як упрыгожыць ёлку

Калі возьмеце толькі сіні і зялёны колеры для аздаблення, атрымаецца не вельмі ярка. Дадайце яркія плямы, вытрымліваючы ў адной гаме.

Добры варыянт – глянцавыя сінія шарыкі і матавыя чырвоныя ці іншага яркага колеру. Буйныя вешайце на ніжнія лапкі, а падымаючыся вышэй, бярыце меншыя.

Ёлкі таксама варта ўпрыгожыць званочкамі з сінімі і зялёнымі банцікамі. Гэта звяжа ўсе ўпрыгажэнні ў адну гісторыю.

Гаспадыня 2015 года будзе спрыяць тым, хто ўпрыгожыць ёлку цацкамі з выявай кветак: васількоў ці рамонкаў.

Утульную атмасферу забяспечаць вязаныя цацкі ці сшытыя з тканіны. Арыстакратычная і цёплая атмасфера атрымаецца, калі выкарыстаць сіне-серабрыстую гаму, аздобіўшы вязанымі і тканінавымі ўпрыгожваннямі.

### Зрабіце сваімі рукамі

Трэнд навагодняга сезона-2015 – празрыстыя ёлачныя цацкі. Можна апавіць іх ніткамі, дожджыкам ці размаляваць фарбай. А можна штосьці пакласці ў іх: хваёвую лапку, мішуру.

Кожнай сям'і неабходна хаця б адну цацку зрабіць сваімі рукамі. Гэта будзе спрыяць добрым стасункам у доме.

Самы просты спосаб упрыгожыць ёлку, які асабліва падыходзіць для офісаў, – апельсінамі. Паржце некалькі апельсінаў кружкамі, прысыпце молатай карыцай і пакладзіце іх падсохнуць. Потым прымацуйце кружкі да галінак. Некалькі апельсінаў упрыгожце спецыямі гваздзікі і абвяжыце сіняй стужачкай.

Аранжавы колер будзе стымуляваць мазгавую дзейнасць, а пах апельсіна і карыцы павялічыць працаздольнасць.

Упрыгожвайце дом з самымі блізкімі людзьмі, будзьце шчырыя і не спрабуйце зрабіць усё адначасова. Новы год – гэта свята. Толькі ад вас залежыць, ці стане яно чарадзейным.

**Эмілія ХВОЯ.**


Фота Настассі РОЎДЫ.

**Маладзечанка Вольга Мацюшонак разам з дачкой Евай ужо падрыхтавалі навагоднія ўпрыгожванні. Рабілі іх наступным чынам. Рознакаляровыя ніткі прамачылі ў клеі ПВА. Надзьмулі паветраныя шарыкі і змазалі іх алеем. Абматалі шарыкі ніткамі ў клеі. Пакінулі іх на ноч. Раніцай праткнулі і дасталі паветраны шарык. Атрымалі прыгожыя цацкі, якія глядзяцца яшчэ прыгажэй з гірляндай.**

## Ёлка здзяйсняе жаданні

Калі вы чакаеце ад сёлетніх Калядаў і Новага года больш, чым вясёлага свята, скарыстайцеся простымі магічнымі прыёмамі, якія маюць сілу толькі ў гэты чароўны час.

Калі вы марыце пра каханне, упрыгожце ёлку ў чырвона-ружовай гаме. Выкарыстайце выявы сардэчак, стаўце шмат свечак. Усе ўпрыгожванні абавязкова павінны быць у пары!

Калі востра стаіць грашовае пытанне – упрыгожвайце любымі цацкамі з залацінкамі, манеткамі і грашыма.

Калі складанасці з кар'ерай, дом і ёлку варта ўпрыгожыць так, каб з прафесіяй была відавочная асацыяцыя.

Калі марыце пра папаўненне, добрым упрыгожваннем стануць дзіцячыя цацкі.

Калі хочаце вырашыць усе праблемы адразу, стаўце ёлку ў цэнтр пакоя і ўпрыгожвайце ўсім, што тычыцца кожнага з кірунку вашых мараў.














ЗАХАПЛЕННІ

# Танцы жывата дапамагаюць пахудзець і зацяжараць

**МАЛАДЗЕЧНА. Трэнер па ўсходніх танцах Жанна Кудрэнка лічыць, што далёка не кожная дзяўчына можа навучыцца гэтаму майстэрству.**

У некага не хапае цярпення, у кагосьці не атрымліваецца выконваць рухі грудзьмі ці сцёгнамі.

– Каб навучыцца, найперш трэба жаданне. Але аднаго яго мала, – заўважае Жанна Кудрэнка. – Да мяне прыходзіла шмат дзяўчат, якія хацелі б адразу стаць зоркамі і зачароўваць людзей сваімі рухамі. Каб танцаваць, варта многа працаваць над рухамі. Кожны з іх трэба адточваць па некалькі разоў. Важна навучыцца адчуваць сваё цела.

Трэнер заўважае, што адным хапае года, каб быў бачны вынік. Іншыя могуць дасягнуць таго ж праз два-тры гады. Усё залежыць ад здольнасцяў, працавітасці і жадання.

## Танец не павінны быць цалкам сэксуальны

– Танец жывата – гэта выяўленне жаночай душы, – гаворыць Жанна. – Праз яго жанчына паказвае сваю пластычнасць, жаноцкасць, прыгажосць, эратычнасць. Аднак трэба ведаць меру. Галоўнае, каб танец не стаў цалкам сэксуальным.

Жанна Кудрэнка ўспамінае, што знешнасць яе першай выкладчыцы па танцах жывата была звычайная, нічым непрыкметная:

– А калі яна пачынала рухацца, то рухі яе былі настолькі плаўныя, заваражлівыя, – успамінае жанчына. – Здавалася, губляеш пачуццё рэальнасці і перад табой зусім іншы чалавек.

Выкладчыца лічыць, што танец жывата ідэальна падыходзіць для тых, хто хоча ўвесь час падтрымліваць сябе ў форме. Таму дзяўчатам, якія мараць пахудзець, раіць займацца танцамі жывата.

Многія дзяўчаты лічаць, што нагрузка падчас танцаў жывата малая. Жанна да заўвагі ставіцца скептычна – трэба займацца больш аддана.

## Простыя правілы для заняткаў танцамі жывата

– Ідэальна, калі жанчына займаецца тры разы на тыдзень па гадзіне, – гаворыць Жанна. – Не трэба есці за дзве гадзіны перад заняткамі – будзе цяжка рухацца. І адну гадзіну пасля. У гэты час ідзе актыўнае спальванне тлушчу. Пасля можна есці тое, што захочацца.

Заняткі па танцах жывата ў Жанны Кудрэнкі праходзяць у некалькі этапаў. Спачатку размінка на пяць-дзесяць хвілін, каб падрыхтаваць цела да нагрузкі. Потым асноўная частка заняткаў.

Пачынаюць з верхняй часткі цела, паступова спускаючца да ступняў. Перш размінаюць тулава: грудную клетку, шыю, рукі, жывот, малы таз. Затым ікраножныя мышцы і ступні. Пасля гэтага нагрузка зноў пераходзіць уверх.

– Падчас танцаў становіцца лепшым кровазварот, – расказвае трэнер. – Рухі пабудаваныя так, што праз іх адбываецца масаж унутраных органаў. Яны больш насычаюцца кіслародам. Таксама адбываецца прафілактыка астэахандрозу.

## Паўтарала рухі з індыйскіх фільмаў

Сама трэнер па танцах жывата з дзяцінства марыла імі займацца. Яна вельмі любіла індыйскае кіно. Самымі яркімі момантамі ў ім лічыла менавіта танцы. Пасля фільмаў уяўляла сябе індыйскай прыгажуняй, імкнулася паўтарыць рухі.

У школе займалася народнымі танцамі, затым бальнымі. Дома спрабавала займацца фітнесам. Калі ўбачыла, што нагрузкі не хапае, пайшла ў спартыўную залу.

– Але нават пасля гэтага было ўражанне, што чагосьці не хапае ў жыцці, – расказвае жанчына. – Побач са спартыўнай залай, дзе займалася, ішлі заняткі па танцы жывата. Маё сэрца ўвесь час трымцела, калі праходзіла праз гэты пакой. Але нешта перашкаджала запісацца.

А рашылася толькі пасля парады доктара.

**Галіна СІНІЦА.**



Фота Галіны СІНІЦЫ.

Жанна Кудрэнка – трэнер па танцах жывата.

КАМЕНТАР ДОКТАРА

## Каму нельга займацца танцамі жывата

Участковы доктар-тэрапеўт загадчыца тэрапеўтычнага аддзялення паліклінікі №3 у Маладзечне **Жанна Кісель** патлумачыла, з якімі захворваннямі нельга займацца танцамі жывата.

Гэта хваробы апорнарухальнага апарату, напрыклад, грыжы пазваночніка, астэахандроз, артроз, плоскаступнёвасць.

– Падчас танцаў жывата вялікая нагрузка ідзе на падушачкі пальцаў ног, – тлумачыць Жанна Кісель. – Таму людзям з плоскаступнёвасцю непажадана займацца імі. Вялікая нагрузка кладзецца і на пазваночнік. Таму ў людзей пры такіх захворваннях дыскі могуць змяшчацца больш.

Непажадана займацца танцамі жывата з хранічнымі захворваннямі страўніка, напрыклад, язвай, панкрэатытам, гепатытам. Людзям з сардэчна-сасудзістымі захворваннямі, такімі, як ішэмічная хвароба сэрца, тахікардыя, артэрыяльная гіпертэнзія, парушэннем рытму.

– У людзей, хворых на сэрца, павялічваецца крывацёк да сэрца, – адзначае участковы доктар-тэрапеўт. – Да сэрца не паступае дастатковая колькасць кіслароду.

## Якую карысць даюць танцы

Пры злаякасных і дабраякасных пухлінах можа адкрыцца крывацёк. Непажадана займацца танцамі жывата і пры захворваннях палавых органаў.

– Танцы жывата – занятак для фізічна здаровых людзей, – падводзіць высновы ўчастковы доктар-тэрапеўт Жанна Кісель. – На іх яны ўплываюць станоўча: паляпшаецца кровазабеспячэнне як галаўнога мозга, так і сэрца, развіваецца гібкасць, становіцца лепшай пастава, умацоўваюцца мышцы пазваночніка і жывата. Таксама трэніруецца дыханне.

Спецыяліст заўважае, што мае сэнс займацца танцамі жывата тым жанчынам, што не могуць зацяжарыць. У іх паляпшаецца крывацёк да палавых органаў, гарманальныя працэсы. Але цяжарным лепш адмовіцца ад заняткаў.



НАВІНЫ

## Лепшым гульцом прызналі Рындзюка

**СМАРГОНЬ.** Першае месца і званне лепшы гулец футбольнага клуба "Смаргонь" у сезоне 2014 года заваяваў капітан і лепшы бамбардзір каманды **Мікалай Рындзюк.**

Ён набраў 60% усіх галасоў, расказаў прэс-аташэ ФК "Смаргонь" **Уладзімір Амбрасевіч.**

Такія вынікі прынесла апытанне, праведзенае сярод заўзятараў у групе афіцыйнага сайта клуба ў сацсетцы "Укантакце".

Другое месца заняў паўабаронца **Павел Баскакаў.** За яго падалі больш за чвэрць галасоў.

## Перамога і паражэнне "Дынама-Маладзечна"

**МАЛАДЗЕЧНА** "Дынама-Маладзечна" 28 лістапада сустракалася ў гасцях з "Віцебскам".

Маладзечанскія хакеісты вялі ў ліку 2:0, але асноўны час закончыўся ўнічыю 2:2. Апошні гол віцябчане забілі за 31 секунду да канца трэцяга перыяду – прычым, гулялі яны ў меншасці.

Усё ж перамога была за маладзечнцамі 3:2. У авертайме пераможную шайбу закінуў **Сяргей Голубеў.**

Наступную гульню "Дынама-Маладзечна" праводзіла 1 снежня дома. Каманда з Маладзечна саступіла салігорскаму "Шахцёру" з лікам 2:4.

Пасля двух перыядаў маладзечанскія хакеісты прайгравалі 1:4.

У трэцім перыядзе сталі дзейнічаць больш актыўна і агрэсіўна. Вынік не прымусіў сябе чакаць: **Аляксей Скабелка** скараціў адставанне ў ліку.

На жаль, на большае "зуброў" не хапіла. З усімі нападамі гаспадароў на вароты гасцей тыя спраўляліся з лёгкасцю і давялі матч да перамогі, паведамляе hcdinamo.by.

## Вызначылі самага трапнага стралка

**МЯДЗЕЛ.** У райцэнтры 22 лістапада прайшлі спаборніцтвы па стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі.

Самым трапным аказаўся прадстаўнік Нацыянальнага дзіцячага адукацыйна-аздараўленчага цэнтра "Зубраня" **Аляксей Швед.** Расказаў пра гэта намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама **Леанід Шыдлоўскі.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● КІНО

# Што паказваюць у кінатэатрах перад фільмамі

**У кінатэатры "Радзіма" ў Маладзечне – анонсы прэм'ер, якія хутка з'явяцца ў пракаце. У вілейскім кінатэатры "Мір" – толькі сам фільм, на які і прыйшоў глядач. У валожынскім кінатэатры "Юнацтва" паказваюць прафілактычныя ролікі.**

**ВАЛОЖЫН.** У кінатэатры "Юнацтва" прапануюць розныя тэмы: пра энергазберажэнні, бяспеку на дарозе, супраць наркаманіі. Таксама ролікі на культурную, гістарычную тэматыку. Працягласць іх – да 20 хвілін.

Дырэктар валожынскага філіяла "Мінаблкінавідэапракату" **Людміла Махніцкая** адзначыла:

– На выхадных нават на дыскатэцы ў фае на экранах ішлі фільмы супраць наркаманіі. Некаторыя маладыя людзі спыняліся, глядзелі іх. Цяпер гэта праблема вельмі актуальная. Пра яе не проста гаварыць трэба. Трэба крычаць.

Пакуль валожынскі кінатэатр паказвае фільмы на DVD, але чакаюць, што хутка з'явіцца лічбавае абсталяванне.

**ВІЛЕЙКА.** Начальніца аддзела па кінавідэаабслугоўванні насельніцтва Вілейскага раёна **Таццяна Мацецкая** гаворыць, што ў фае кінатэатра на маніторах паказваюць трэйлеры фільмаў, якія з'явяцца ў паказе.

– У самой жа зале, – гаворыць Таццяна Мацецкая, – людзі глядзяць адпаведны фільм, на які прыйшлі.

Хутка ў кінатэатры "Мір" з'явіцца лічбавы паказ. Пакуль жа фільмы транслююць з дыскаў.

**МАЛАДЗЕЧНА.** Дырэктар маладзечанскага філіялу "Мінаблкінавідэапракату" **Таццяна Дрозд** адзначае, што ў асноўным у кінатэатры "Радзіма" перад фільмам ідуць рэкламныя ролікі фільмаў, якія хутка з'явяцца ў паказе. Аднак ёсць і фільмы прафілактычнага характару. Пераважна іх паказваюць мэтавай аўдыторыі, напрыклад, школьнікам ці навучэнцам.

– Калі праходзіць пэўнае мерапрыемства, – гаворыць Таццяна Дрозд, – мы таксама прымяркоўваем да гэтай даты фільм. Напрыклад, цяпер 90-годдзе беларускага кіно. Ідуць фільмы "Я не вярнуся", "Дзяржаўная мяжа".

**Галіна СІНІЦА.**



Фота kato-foto.ru.

**У валожынскім кінатэатры "Юнацтва" паказваюць прафілактычныя ролікі. Галоўнае, не атрымаць моцны шок да пачатку фільма.**

● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Драма "**Дзяржаўная мяжа. Фільм дзявяты: Кур'еры страху**" (Беларусь, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
5, 6, 7 снежня – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Трылер "**Горад грахоў 2: Жанчына, дзеля якой варта забіваць**" (ЗША, з 18 год)
5, 6, 7 снежня – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Сёмы гном**" (Германія, без узроставых абмежаванняў)
6, 7 снежня – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Фэнтэзі "**Таямніца чатырох прынцэс**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
10 снежня – у 18:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Фантастыка/меладрама "**Яна**" (ЗША, з 16 год)
10, 11 снежня – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Камедыя "**Вясёлыя рабяты**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
11 снежня – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Маленькая гісторыя**" (музычная казка), Н.Гернэт (рус.мова)
7 снежня – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73**, **76-84-27**.

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, камедыя, прыгоды "**Мядзведзі-суседзі**", 3D (Кітай, 2014, без узроставых абмежаванняў)
6 снежня – у 13:30
7 снежня – у 13:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя "**Дзень дурня**" (Расія, 2014, з 16 год)
7 снежня – у 17:00
9 снежня – у 17:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастычныя прыгоды "**Галодныя гульні: Сойка-перасмешніца**" (ЗША, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
6 снежня – у 15:30
7 снежня – у 21:30
9 снежня – у 19:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя, камедыя, прыгоды "**Пінгвіны Мадагаскара**", 3D (ЗША, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
5, 8, 10 снежня – у 19:30
6 снежня – у 20:00
7 снежня – у 15:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Прыгоды "**Дзяржаўная мяжа. Фільм дзявяты: кур'еры страху**" (Беларусь, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
5, 8, 10 снежня – у 17:30
6 снежня – у 18:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя "**Нязносныя босы-2**" (ЗША, 2014, з 16 год)
6, 9 снежня – у 22:00 (цана білета: 50 000 рублёў)
5, 8, 10 снежня – у 21:30
7 снежня – у 19:00
11 снежня – у 18:30 (цана білета: 45 000 рублёў)

Прэм'ера! Фэнтэзі, прыгоды "**Хобіт: Бітва пяці войскаў**", 3D (ЗША, Новая Зеландыя, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
11 снежня – у 21:00
Цана білета: 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**За трыдзевяць зямель**" (Данія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
6, 7 снежня – у 14:00; 16:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Лірычная драма "**Я не вярнуся**" (Беларусь, Казахстан, Расія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
5 снежня – у 17:00
6 снежня – у 17:30
9 снежня – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік "**13-ы раён: Цагляныя асабнякі**" (Францыя, 2013, з 16 год)
5, 10 снежня – у 19:00
6 снежня – у 19:30
7, 8 снежня – у 21:00
11 снежня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя "**Вясёлыя рабяты**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
5, 9, 10 снежня – у 21:00
6 снежня – у 21:30
7 снежня – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Драма "**Роля**" (Беларусь, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
11 снежня – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў
Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**УВАГА! ДЗЕЦІ І ДАРОСЛЫЯ, ЯКІЯ ЯШЧЭ НЕ ЗАБЫЛІСЯ, ШТО НЕКАЛІ БЫЛІ МАЛЕНЬКІМІ!**
20 і 21 снежня ў 12:00 і
22-29 снежня ў 10:30 і 13:00

**ЗАПРАШАЕМ**

**на навагоднюю музычную казку для ўсёй сям'і "ХІТРЫКІ МАДАМ ЗАВІРУХІ", дзе вы сустрэнецеся са сваімі старымі знаёмымі: ДЗЕДАМ МАРОЗАМ, СНЯГУРАЧКАЙ І ІХ ВЕРНЫМІ СЯБРАМІ – СНЕГАВІКОМ І МЯДЗВЕДЗЕМ, якія будуць змагацца з зайздросліай МАДАМ ЗАВІРУХАЙ і яе праставатымі памагатарамі – БУКАЙ І БЯКАЙ.**

ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ

ПРЭМ'ЕРА. "**Афінскія вечары**" (сучасная гісторыя), *Пётр Гладзілін*
10 снежня – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Сямейны партрэт з пабочнай асобай**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Сцяпан Лабазёраў*
17 снежня – у 19:00

**ЮБІЛЕЙНЫ ВЕЧАР-БЕНЕФІС МАЙСТРА СЦЭНЫ АЛЕНЫ РАХМАНГУЛАВАЙ**

ПРЭМ'ЕРА. "**Вакзал на траіх**", *Ігар Балабко*
27 снежня – у 17:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*
Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | 8 | | | | 4 | | | |
| 5 | | | 1 | | | 9 | | 4 |
| | | | | 3 | | | 8 | |
| | | 4 | | | 9 | | 1 | 3 |
| | | | | 2 | | | | |
| 3 | 9 | | 4 | | | 8 | | |
| | 1 | | | 5 | | | | |
| 4 | | 7 | | | 1 | | | 6 |
| | | | 2 | | | | 5 | 9 |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

● ГАРАСКОП
5-11 СНЕЖНЯ

**Авен.** Не важна, якая сітуацыя ўзнікла ў вас у галаве. Рэальнасць такая, што вы можаце з гэтым справіцца. Вы нашмат мацнейшыя і мудрэйшыя, чым думаеце. Вы пройдзеце скрозь гэта і пераможаце.

**Цялец.** Удзячнасць робіць чалавека шчаслівейшым. Прычым не толькі таго, каму яна адрасавана, але і таго, хто яе гаворыць. Не забывайце дзякаваць людзям за ўсё, што яны для вас робяць

**Блізняты.** Спорт – гэта лекі ад усіх хвароб.

**Рак.** Прыслухоўвайцеся да інтуіцыі. Вашы разважанні вельмі важныя, але інтуіцыя – гэта ваша суперсіла. Яна выкарыстоўвае ваш досвед і жыццёвую мадэль, каб знайсці адказ на любое пытанне. Бывае, яна ўзнікае спантанна, і лепш прыслухацца да яе.

**Леў.** Вучыцеся заўсёды, кожны дзень. Даведвайцеся штосьці новае пра розныя рэчы. Вучоба трымае мозг у тонусе, нават у сталым узросце.

**Дзева.** Чэснасць да самога сябе – гэта свабода. Будзьце чэсныя ў адносінах да самога сябе. Самападман – гэта асляпленне самога сябе.

**Шалі.** Дзейнічайце, каб знайсці мэту ў жыцці. Яна не знойдзе сябе сама. Дапамажыце ёй у гэтым і рабіце ўсё магчымае, каб адшукаць мэту.

**Скарпіён.** Ідэалы сумныя. Нашы адрозненні, асаблівасці, фобіі і недахопы – гэта тое, што робіць нас унікальнымі. Памятайце пра гэта.

**Стралец.** Каб змяніць сваё жыццё, даводзіцца рызыкаваць. Прыняцце абдуманых і рызыкоўных рашэнняў дапамагае нам расці. Часцяком рызыка – гэта добра.

**Казярог.** Маленькія рэчы таксама важныя. Усе мы чакаем вялікіх перамог і дасягненняў і забываем пра тое, што яны складаюцца з дробных і бывае нават незаўважных крокаў. Цаніце гэтыя крокі.

**Вадалей.** Памятайце пра сябе ў першую чаргу. Не будзьце самаўлюбёнымі, але ведайце, што самы важны для вас чалавек – гэты вы самі.

**Рыбы.** Наша цела старэе, і мы не можам гэтаму перашкодзіць. Лепшы спосаб замарудзіць старэнне – атрымліваць асалоду ад жыцця і пражываць кожны дзень на поўню.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**



ISSN 1991-7155

**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **Rh.by**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Тэлетыдзень 27

## ● ВЫНІКІ КОНКУРСУ

# Ключавое слова – ПЕРАМОГА

Пераможцамі конкурсу, які быў аб'яўлены ў №47 ад 20 лістапада, сталі **Вячаслаў** з Маладзечна, **Леанід** з Мядзела.

Таксама двое пераможцаў выбраныя з ліку тых, хто даслаў правільны адказ на электронную пошту. Імі сталі **olenka-lesh@rambler.ru** і **vavan13@tut.by.**

Пераможцы атрымоўваюць запрашальны білет на адну з бліжэйшых дамашніх гульняў ХК




"Дынама-Маладзечна". Для больш падрабязнай інфармацыі просьба пераможцаў звярнуцца ў рэдакцыю па нумары **76-96-67.**

**Дзякуй усім за ўдзел і сачыце за газетай. Хутка новыя конкурсы.**

## ● НАДВОР'Е

**6 снежня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -6 / -4 | | -5 / -5 | | -6 / -3 | | -4 / -3 | |
| | 750 | ↖ 2 | 747 | ↑ 5 | 743 | ↗ 2 | 743 | ↑ 1 |
| Вільня | -4 / -2 | | -2 / -2 | | -3 / -1 | | -2 / -1 | |
| | 759 | ↖ 4 | 755 | ↑ 5 | 752 | ↗ 2 | 753 | ↗ 2 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |


Усход 9.17
Захад 16.50
Даўжыня дня 7.33


Усход 17.22
Захад 8.38
Поўня




## ● ПРЫКМЕТЫ

- Імяніны Кацярыны, 7 снежня. "Прыйшла Кацярына – прыйдзе і пярына" (ляжа добры снег).
- Юр'я зімовы (9 снежня). "Два Ягор'я ў гаду – адзін галодны, другі халодны".

**Прагноз надвор'я прадстаўляе ААТ "БАНК БелВЭБ"**



## Чытайце праз тыдзень:

- **Як прыбрацца ў навагоднюю ноч, каб не пакрыўдзіць гаспадыню 2015 года Сінюю Драўляную Казу і заручыцца яе падтрымкай.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 48 (1022) 28.11.2014. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1637. Падпісана ў друк у 9.00 27.11.2014.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.